**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламнай аб'явы ў чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін штотыднёва**

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 35 (64). Слонім. 27 жніўня — 2 верасня 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

**ВЁСКА** *нашы людзі*

## Марыя Жарко: "Мяне цалаваў Леанід Брэжнеў і песні спяваў Валерый Залатухін"



**Марыя Жарко з дачкою Інай сёння** *Фота М.СУПРУНА*

"Зорны" час нашай зямлячкі Марыі Жарко прыпаў на 70-я гады. Нават цяжка прыгадаць сёння каго-небудзь яшчэ, каб так, як пра яе, гаварылі на ўвесь былы Савецкі Саюз. Марыя Жарко – маладая трактарыстка калгаса імя Дзяржынскага Слонімскага раёна – у 1974 годзе становіцца пераможцай усесаюзнага тэлеконкурсу "Ану, дзяўчаты!". Яе выбіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, дэлегатам XVII з'езда камсамола СССР, узнагароджваюць ордэнам "Знак Пашаны" і медалём "За працоўную адзнаку", пра яе здымаюць дакументальны фільм "Марыя" і выпускаюць брашуру, пра яе пішуць у газетах і часопісах, яе запрашаюць на багатыя застоллі і фэсты...

З таго часу прайшло шмат гадоў. Як склаўся далейшы лёс Марыі Жарко? Ці знайшла яна сваё асабістае шчасце, дзе цяпер жыве і працуе? А яшчэ – якім сапраўды быў для яе той "зорны" час? *(Пра гэта чытайце на стр.3)*



**Марыя Жарко, 1974г.**

**НАВІНЫ**

### Мы багаты на метал

**З пачатку года гаспадаркі і прадпрыемствы Слонімшчыны здалі 1626 тон металалому.**

Гэтага металу хопіць, каб зрабіць 250 камбайнаў "Ніва".

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### У школу – з новым падручнікам

**У новым навучальным годзе вучні сёмых класаў гісторыю Беларусі будуць вывучаць па новаму падручніку.**

Яго напісаў наш зямляк Павел Лойка.

Падручнік "Гісторыя Беларусі" ахоплівае цудоўны перыяд нашай гісторыі XVI–XVIII стагоддзяў. Вучні пазнаёмяцца з вялікімі падзеямі гэтага часу, са знакамітымі сынамі нашай Бацькаўшчыны К. Астрожскім, Л. Сапегам, Т. Касцюшкам, Ф. Скарынам і іншымі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Бытавікі сталі рабіць мэблю

**Быткамбінат асвоіў новы від прадукцыі — выпуск мэблі.**

Першая партыя мяккіх куткоў хутка паступіць у продаж. Прадпрыемства таксама робіць і рамонт мэблі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Параяцца настаўнікі

На гэтым тыдні ў чацвер і пятніцу настаўнікі горада і раёна збяруцца на свае жнівеньскія нарады. Будуць падведзены вынікі мінулага навучальнага года і пастаўлены задачы на новы.

## МЕДЫКІ СТВАРЫЛІ ЦУД

**У слонімскай сям'і Грамадскіх здарылася няшчасце: іх сын Косцік застаўся без пальцаў на руках. Гродзенскія дактары стварылі цуд — вярнулі хлопчыку рукі. Падрабязнасці чытайце на стр.2.**



**Косця Грамадскі**

**ЗДАРЭННІ**

### За бутэльку адсёк сабе руку

**Жыхар вёскі Савічы, 32-гадовы С. на мінулым тыдні быў дастаўлены ў траўматалагічнае аддзяленне раённай бальніцы з адсечанай кісцю левай рукі.**

Высветлілася, што апоўдні хлопец захацеў пахмяліцца і затрабаваў у сваіх родных грошай на гарэлку. А калі тыя адмовілі яму ў гэтым, схапіў сякеру і адсёк сабе руку.

### Забралі ўсё каштоўнае

**Невядомыя злодзеі, карыстаючыся адсутнасцю гаспадара, залезлі праз акно ў хату, што на Лугавой вуліцы.**

Яны ўкралі відэакамеру, відэа-аўдыёмагнітафоны, два тэлефоны, пяць футравых скур і ружжо для падводнага палявання.

### Абрабаваў інваліда

**На прывакзальнай плошчы горада жыхар вёскі Харашэвічы П. абрабаваў інваліда з Івацэвіцкага раёна.**

Пад пагрозай нажа ён забраў у старога гадзіннік і 45 тысяч рублёў. Злачынца затрыманы.

### Начны наезд

**Ноччу шафёр калгаса "Уперад", едучы на аўтамашыне "ГАЗ-52", наехаў на вартаўніка ПМК-65 слонімца Ю, які з калецтвамі дастаўлены ў раённую бальніцу.**

Высветлілася, што пацярпелы быў у нецвярозым стане.

### Цыгарэта спаліла хлеў

**У мінулыя выхадныя згарэлі хлеў і страха дома жыхара вёскі Ягнешчыцы.**

Пажар узнік ад цыгарэты, якую кінуў у хляве пляменнік гаспадара. Хлопец прыехаў у госці з Мінска.

### Вось дык госць

**У вёсцы Голі датла згарэў былы кароўнік калгаса "1 Мая".**

Прычына пажару – свавольства з агнём 12-гадовага хлопчыка са Жлобіна, які гасцяваў у слонімскіх сваякоў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



**НАДВОР'Е**

**26–27 августа облачно с прояснениями, временами дожди, грозы, ветер северо-западный 6–11м/с, температура воздуха ночью 4–9, днем 14–19 градусов.**



## БЕНЗІНАВАЯ ПРАБЛЕМА

**Днямі на запраўвачных станцыях горада знік бензін. Дарэмна шукалі яго вадзіцелі нават на прыватнай аўтазапраўцы, што ў Грыбаве. Там карэспандэнту "ГС" парайлі ехаць у Зэльву, дзе адпускаюць па 20 літраў А-76.**

Раніцай у панядзелак, 24 жніўня, бензін маркі А-76 усё ж з'явіўся на запраўвачнай станцыі па Азёрнай вуліцы, але яго хапіла літаральна на некалькі гадзін, бо ў чарзе стаяла каля паўсотні легкавушак (на здымку).

Дырэктар нафтабазы Міхаіл Салавей паведаміў рэдакцыі, што бензінавая праблема існуе не толькі ў Слоніме, але наогул па ўсёй Беларусі.

– Яна ўзнікла ў сувязі з тым, – патлумачыў Міхаіл Паўлавіч, – што ў канцэрна "Белнафтапрадукты" не хапае валюты на закупку нафты. Днямі ў Слонім прыбыла адна 43-тонная ёмістасць з бензінам А-76, дык паўстала пытанне, як яе падзяліць на ўсіх спажыўцоў, каб нікога не пакрыўдзіць, – шчыра прызнаўся дырэктар прадпрыемства.

У аўторак, 25 жніўня, па ўсіх АЗС горада не было ніякага бензіну.

**Валянцін ЧУРЫЛА, Мікалай СУПРУН (фота)**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК**

Цены (в тыс.руб.)

| | 28.07 1998 | 25.08 1998 |
|---|---|---|
| свинина | - | 80-175 |
| говядина | - | 70-165 |
| телятина | - | 70-165 |
| сало | - | 110-125 |
| молоко | 7 | 7 |
| сметана | - | 36 |
| масло | - | 100-110 |
| творог | - | 25 |
| бананы | 60-65 | 70 |
| помидоры | 30-48 | 30-40 |
| чеснок | 55 | 60 |
| картофель | 10 | 8-10 |
| яйца (1дес.) | 32 | 32-35 |
| капуста | 15 | 10-12 |
| огурцы | 17-20 | 10-15 |
| морковь (1пуч.) | 10-15 | 6-7 |
| лук репчатый | 15 | 35 |
| апельсины | - | 60 |
| лимоны | - | 75 |
| мед | - | 275 |
| перец | - | 30 |
| свекла | - | 5-8 |

**РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ**

### Кракоцкая крыніца

Слонімская зямля вельмі багатая на лясныя крыніцы. Яны ёсць у Жыровічах, Чамярах, Альбярціне і ў іншых мясцінах. Нядаўна нам надарылася пабываць каля Кракоцкай крыніцы, якую называюць яшчэ і "скуратоў калодзеж". Мясцовыя жыхары яе абгарадзілі, паставілі побач крыж і крыніца стала сапраўды нібы калодзеж. Кажуць, што вада з кракоцкай крыніцы лечыць вочы, таму тут шмат бывае людзей: хто проста на месцы ваду п'е, а хто набірае ў посуд і вязе дамоў. Людзі спадзяюцца на яе дапамогу. І ў гэта хочацца верыць.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Мікалай СУПРУН (фота)**

АНАЛИТИКА социальная защита

# ЧТО ЖДЕТ БЕЛОРУСОВ: КОМПЕНСАЦИЯ ИЛИ ПОВЫШЕНИЕ ЗАРАБОТНОЙ ПЛАТЫ?

**Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор**

Как известно, уже объявлено о намерении правительства с 1 октября 1998 года повысить минимальную заработную плату до 350 тысяч рублей, а тарифную ставку первого разряда – до 700 тысяч.

Это повышение уровня минимальной заработной платы в Беларуси произойдет после наиболее длительного за последние годы – девятимесячного – ее замораживания. В предыдущие годы повышение "минималки" происходило 3-4 раза в год. В нынешнем году Совет Министров вообще не намеревался повышать минимальную зарплату, и в этом его поддерживали многие ведомства, в том числе Министерство экономики. На мой вопрос, откуда такое упрямство – ведь инфляция-то растет! – заместитель министра экономики, профессор Андрей Тур отвечал полушутя - полусерьезно: "Зачем повышать, если инфляция все равно сведет это повышение к нулю".

Однако будет ли очередное повышение минимальной заработной платы реальным, а не номинальным? К сожалению, есть все основания утверждать, что оно будет иметь компенсационный характер. Ведь после предыдущего повышения "минималки", произошедшего с 1 января 1998 года, инфляция в стране не только не была прекращена, но и для ее роста все это время создавались условия. В их числе – и постоянная чрезмерная эмиссия не обеспеченных товарами денег, и наличие сразу четырех обменных курсов белорусского рубля к иностранным валютам, и то обстоятельство, что в прошлом году рост цен на промышленную продукцию значительно превышал рост потребительских цен: по итогам года он достиг 91 процента. А это ведь, в основном, – цены на промежуточный продукт (сырье и комплектующие, топливо и энергию), которые, помимо прочего, определяли затраты производства уже в нынешнем году.

Итак, минимальная заработная плата будет повышена с 1 октября на 40 процентов. Рост, вроде бы, существенный. Но что он означает в реальной оценке? Ведь только за первое полугодие 1998 года инфляция, по официальным данным, составила около 22 процентов. В третьем квартале этого года цены будут расти, как минимум, такими же темпами, – хотя бы потому, что идет битва за урожай, на что брошены новоотпечатанные миллиарды рублей. Получается, что к уже зафиксированному уровню инфляции надо приплюсовать не менее 11 процентов. Значит, от предстоящего повышения заработной платы в реальности почти ничего не остается, даже если исходить из показателей официальной статистики.

Неофициальная же свидетельствует о более высокой инфляции в стране. Так, в социально-экономическом отделе Федерации профсоюзов, изучив движение цен в июле, пришли к выводу, что, по состоянию на 20 июля, стоимость набора продуктов питания по нормам минимального потребительского бюджета составила 1 миллион 724 тысячи рублей. В сравнении с данными на конец июня, рост составил 11,4 процента, что более чем в 3 раза превышает официальные данные о росте цен на товары массового потребления. Причем рост стоимости продовольственной корзины в отдельных регионах был еще более угрожающим: в Гомеле – на 25,5 процента, в Могилеве – на 22,7 процента. При этом самыми дорогими по стоимости продовольственной корзины являются Витебск и Гомель (там она оценивается примерно в 1,8 миллиона рублей). Не трудно представить, что останется от ожидаемого повышения минимальной заработной платы, если цены на продукты питания будут расти в сентябре такими же темпами, как в августе.Не следует забывать, что повышение "минималки" и ставки первого разряда имеет непосредственное отношение только к бюджетной сфере. Вне этой сферы заработная плата, – разумеется, номинальная, – повышается все время.

Однако это не означает, что с повышением минималки произойдет движение к выравниванию заработной платы. Дело в том, что , как и прежде, вслед за повышением зарплаты бюджетникам в той же примерно пропорции повышается заработная плата и работников материального производства, что отразится на ценах на товары. Тем самым создается экономическая база для очередного витка инфляции. Так что компенсационный характер очередного повышения заработной платы в стране обращен не только в прошлое, но и в будущее.

**БелаПАН**

# МЕДЫКІ СТВАРЫЛІ ЦУД

Раз'юшаны маньяк з сякераю ў руках накінуўся на сваю жонку, якая ад некалькіх ўдараў паваліласся на падлогу. Дзевяцігадовы ўнук Косця Грамадскі, які знаходзіўся побач, не разгубіўся і кінуўся на вар'ята, каб абараніць бабулю. Той не шкадаваў хлопчыка, стукнуў сякерай малому па галаве і па руках.

Бацькі Косціка, нібыта адчувалі бяду і раней прыехалі з працы дамоў. Увайшоўшы ў кватэру, яны спачатку не маглі знайсці сына, бо той ад страху і болю схаваўся ў ванне. Пазней ён сказаў, што баяўся заліць крывёю кватэру. Што дарослыя ўбачылі – проста жах: у хлопчыка была разбіта галава, пальцы на руках, наогул, былі адсечаныя. Моцна пашкоджанымі аказаліся і косці рук.

Першую медыцынскую дапамогу яму аказалі слонімскія хірургі Георгій Барановскі і Генадзь Баршынаў. Потым на машыне "хуткай дапамогі" павезлі яго ў Гродна. Спачатку хацелі адправіць хлопчыка на верталёце, але ў той дзень, 4 лістапада 1993 года, быў густы туман. У Гродне, у чацвёртай гарадской бальніцы, іх ужо чакалі.

– Калі мы пад'ехалі, – успамінае маці Косціка Алена Іванаўна, – сына адразу павезлі ў аддзяленне мікрахірургіі на аперацыю, якая працягвалася з 7 гадзін вечара да 5 раніцы. Аперацыя прайшла паспяхова.

Хочацца нагадаць, што аддзяленне мікрахірургіі ў Гродзенскай чацвёртай бальніцы створана па ініцыятыве доктара Уладзіміра Радзіловіча, які цяпер з'яўляецца яго загадчыкам.

Пасля аперацыі для Косціка Грамадскага пачаўся доўгі рэабілітацыйны перыяд. Але хлопчык вытрымаў усё. Сёння нават цяжка паверыць, што ён пераўжыў. Але самае галоўнае, што дактары вярнулі хлопчыку рукі і пальцы. Мы доўга глядзелі на яго рукі і здзіўляліся таленту гродзенскіх хірургаў. А Косця расказваў нам пра вучобу (ён перайшоў ужо ў восьмы клас), пра тое, што ўжо тры гады займаецца грэблай у слонімскага трэнера Яўгена Рэдзькіна. "Калі Косця адыйшоў ад наркозу, – гаворыць Алена Іванаўна, – адразу папрасіў што-небудзь паесці. Я, медсёстры і ўрачы шчыра ўсміхнуліся і сказалі, што ўсё будзе добра. Так яно і атрымалася"...



Косцік Грамадскі з мамаю

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

НАВІНЫ

## Скоро в школу

**В этом году, по информации городского отдела образования, в первый класс пойдет 1069 маленьких слонимчан.**

Сколько первоклашек сядут за парты в сельских школах– редакция газеты не смогла уточнить. Заведующая районного отдела образования Галина Шмелева 24 августа заявила корреспонденту "ГС", что ей такая цифра пока неизвестна?! Странно...

Однако родителям сегодня хорошо известно, сколько понадобится денег, чтобы отправить ребенка в школу.

"Только по самым скромным подсчетам, нашей семье это стоило около пяти миллионов рублей", – призналась слонимчанка Алла Ковалькова, чей сын в этом году пойдет в первый класс. Для примера, форма для девочки стоит около 500 тыс. руб., а с белым фартуком на 88 тысяч дороже. Костюм для мальчика – 800 тыс.руб., рубашка – от 80 до 120 тыс. На уроки физкультуры первокласснику понадобится и спортивный костюм по цене от 400 тыс. и выше, кроссовки от 500 тыс. Самые скромные полуботинки, с одноименным названием "школьные", стоят 442 тыс. руб. Для девочек необходимы банты от 3.800 до 7.900 рублей за метр. Чтобы стать школьником, еще нужен портфель (400 тыс. – 500 тыс. руб. самый дешевый). Понадобятся также цветные карандаши – от 12.100 до 107.300 рублей, тетради – 2.400 руб. за штуку, краски – от 15.100 – 247.100 руб., пластилин от 14.600 до 60.000 и многое-многое другое. Самыми дешевыми в школьном списке оказались стержни для ручки по цене 1600 руб. за штуку, клей силикатный – 3.200 рублей.

Конечно, каждый родитель по-своему составляет перечень школьного списка в зависимости от своего семейного бюджета.

– Стараемся покупать те принадлежности, которые подешевле. У нас денег на еду не хватает, а как подумаешь, что ребенка в школу надо отправлять – страшно становится, – заметила корреспондентам "ГС" рабочая Валентина Ивановна.

А вот продавец Ольга Куришко закупала все необходимое для школы постепенно.

– С каждой зарплаты мы откладывали деньги. Но не все мы покупаем в магазине, на рынке дешевле, хоть качество там похуже" – сказала она.

Во время беседы с другими родителями первоклассников, корреспонденты газеты выяснили, что за неделю до 1 сентября многие из них еще так и не подготовили своих детей к школе.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**
**Виктор ВОЛОДАЩУК**

## Зарплата в Беларуси снизилась

**За семь месяцев нынешнего года средняя начисленная заработная плата рабочих и служащих в Беларуси в пересчете по рыночному («черному») наличному курсу снизилась с 88 до 73 долларов США, или на 17 процентов.**

Помесячная динамика выглядит следующим образом: декабрь 1997 года – 88 долларов, январь 1998 года – 75, февраль – 81, март – 85, апрель – 74, май – 73, июнь – 74, июль – 73.

Тенденция к снижению наблюдается и при пересчете среднемесячной зарплаты по среднему банковскому наличному курсу (с 90 до 80 долларов, или на 11 процентов), а также по официальному курсу Национального банка страны (со 113 до 110 долларов, или на 3 процента).

## С изображением аиста и зубра

**Министерство связи республики вводит в обращение две новые почтовые марки четвертого стандартного выпуска с изображением аиста и зубра.**

Хотя популяции этих представителей фауны в стране не очень большие – свои гнездовья на территории республики устраивают не более 14.300 пар белых и черных аистов, а стадо зубров насчитывает всего около 400 особей – они и сегодня остаются своеобразной визитной карточкой животного мира Беларуси.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 26 жніўня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №2423
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

